## Слухаем беларускае, спяваем па-беларуску!

*“Хрыстос уваскрос!” Вялікодныя сьпевы гурта “NEWCOSMOPOLIS”, 1999, БМА-груп.*

*“Хрыстос нарадзіўся!” Калядныя сьпевы гурта “NEWCOSMOPOLIS”, 1999, БМА-груп.*

Відавочна, што беларуская Грэка-Каталіцкая царква робіць для беларусізацыі свайго царкоўнага жыцця ці не больш за іншыя канфесіі. Сапраўды, не паспелі вернікі-вуніяты ўзрадавацца такой важнай падзеі – зацверджанню Ватыканам багаслужбоўных тэкстаў у перакладзе на




беларускую мову айца Аляксандра Надсана, як намаганнямі ды ахвяраваннямі вернікаў, святароў ды музыкаў выдадзены дзве касеты з беларускамоўнай хрысціянскай музыкай “Хрыстос нарадзіўся!” і “Хрыстос уваскрос!” з калядными і вялікоднымі спевамі віцебскага гурта “NEWCOSMOPOLIS” (“Новы касмічны горад”) пад кіраўніцтвам Я. Савельева.

Першыя ўражанні ад твораў альбому “Хрыстос уваскрос!” – стрыманасць музычных фарбаў, карэктнасць да рэлігійных пачуццяў вернікаў іншых канфесій. Бачна, што ў выканаўцаў ёсць цвёрдае перакананне ў тым, што беларускае слова, звернутае да Бога, будзе абавязкова пачутае – бо яно Боскае!

Ужо ў першым творы альбому “Словы” адчуваецца імкненне скарыстаць незвычайныя тэмбры і магчымасці сінтэзатараў, выкарыстаць элементы джазавай імправізацыі. Але галоўным прынцыпам кампазіцыі твораў становіцца гарманічнае спалучэнне мелодыі і тэкстаў –своеасаблівых малітваў, праслаўленняў і каянняў – (творы “Добры Самаранін”, “Сьвяты Язафат”, “Сьвятая Еўфрасіньня”). Сапраўды ўражвае і кранае душу хрысціянская песня – эмацыянальны стрыжань альбому – “Сьвятая Марыя” у выкананні лідара гурта Я. Савельева. Лепшы, на маю думку, нумар альбомаў!

Другі бок альбому амаль цалкам складваецца з разгорнутых музычных палотнаў-кампазыцый хрысціянскай, біблейскай і патрыятычнай накіраванасці : песні “Цела і кроў”, “Калі ў руцэ трымаеш Крыж”, “Хрыстос уваскрос!”, “Званы Беларусі”. У кожнай з іх слухач адзначыць адметныя музычныя фарбы – унісонныя імправізацыі раяля Анатоля Вярэніча ды гітары Міхася Фурса, “касмічныя” сола клавішных Уладзіміра Чэха, характэрныя для хрысціянскіх выканаўцаў меладычныя пералівы званоў ды харавыя спевы.

На ўсім гэтым узнёслым музычным ланшафце дысанансам выглядаюць рэцэдывы старой хваробы гурта – неадпаведнасць некаторых складаных тэм яго музычнаму ўвасабленню. Цяжка адчуць пад манатонны дыскатэчны рытм ды легкадумныя саксафонныя сола сэнс і боль тэм, што ўздымаюцца ў такіх творах, як “Пяцёра пакутнікаў Полацкіх”. “Гутарка з Богам”... Ці ж гэта не падстава для крытычных заўваг!

На шчасце, такіх неадпаведных тэм на касеце не шмат, а другі альбом гурта “NEWCOSMOPOLIS” “Хрыстос нарадзіўся!” складаюць такія хрысціянскія творы, якія хочацца спяваць разам з музыкамі – настолькі мелодыі каляднага альбому светлыя, кранальныя, а аранжыроўка мяккая ды беражлівая!

Паслухайце першы нумар альбому – твор “Хрыстос нарадзіўся!”, стылізаваны пад каляду. у фальклорным стылі, альбом “Маленькае сонейка”, што гучыць пад акампанемент класічнай гітары ды іншыя творы... Шчырасць выканання, біблейскія паралелі, чуллівыя мелодыі ствараюць святочны настрой, прадчуванне таго, што “У цудоўную ночку Ісус нарадзіўся, да Матачкі Боскай Хрыстос прытуліўся...”.

Адзначым і вельмі ашчадную ды грунтоўную кампазіцыйную працу Я. Савельева, калі размова ідзе пра песні на незабыўныя вершы Ларысы Геніюш. Ці не прыклад арганічнага спалучэння высокай духоўнай паэзіі ды высокароднай мелодыкі? Песні з гэтых альбомаў хачацца спяваць супольна ў шчыльным сяброўскім ці сямейным коле.

Калі ўспомніць досвед хрысціянскіх місіянерскіх служба́ў, дык ён відавочна даказвае, што супольнае выкананне духоўнай музыкі паскарае працэс евангелізацыі, а ў выпадку з песнямі “NEWCOSMOPOLIS” і беларусізацыі, вернікаў. У гэтым, таксама, бачыцца адна з мэтаў выпуску такіх музычных навінак.




По касеты можна звярнуцца ў БМА-груп па тэлефоне (017) 249-08-88, альбо на адрас: Менск а/с 5.

*Анатоль МЯЛЬГУЙ.*

## Давайце спяваць па-беларуску

### КАЛІ КАЛІНА НЕ ЦВІЛА

**песня з рэпертуару ансамбля “СВЯТА”**

***Словы і музыка народныя.***
***Песня запісана на радзіме Івана Мележа.***



Ка - лі ка - лі - на не цві-ла, то не ла - май ка-



-лі - ну. Ка - лі ты ў ар - мі - і не быў, то не ка -хай дзяў-



-чы - ну. Я па-мя - та - ю той жа час, ты пла-ка-



-ла за мно-ю, на раз-ві-тан - не раз у раз ма-ха-ла



хус - ці - но - ю. Я па-мя-

Калі каліна не цвіла,
То не ламай каліну.
Калі ты ў арміі не быў,
То не кахай дзяўчыну.

Прыпеў:

Я памятаю той жа час,
Ты плакала за мною,
На развітанне раз у раз
Махала хусціною. *2 разы*

Не трэба было разбіваць
Грачнёвыя паловы.
Не трэба было задаваць
Гарачае любові.

Прыпеў.

Калі каліна адцвіла,
Тады ламай каліну.
Калі ты армію адбыў,
Тады кахай дзяўчыну.

Прыпеў.

## “Белая Вежа”



У Берасці 8 верасня адкрыўся міжнародны тэатральны фестываль “Белая Вежа”, у якім прымаюць удзел 25 тэатральных калектываў з 13 краін.

**На здымку:** сцэна з спектакля нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы “ Князь Вітаўт”.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная калегія:*** Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 09. 2000 г.
Наклад 2700 асобнікаў. Замова № 2354
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
***Кошт у розніцу:*** 40 руб.